




# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

1939 г. № 10

# Букет Сталіну

САРА КАГАН

Рысунак В. ЦІХАНОВІЧА

Хто праз вуліцу,
хто праз быструю,
Кветкі свежыя там пранёс?
І каму-ж гэта серабрыстыя
Птахі песеньку шлюць з нябёс?
Вунь сукеначка снежна-белая
Прамільгнула ля варот.
Шыя бліснула загарэлая,
Той дзяўчыначцы—дзесяць год.
Знаю—зваць цябе Ніна Здрогава.

Ты спяшаешся? А куды?
Можа ў сад бяжыш ты дарогаю,
Мо' спяшаешся ў школу ты?
— Я нясу букет прама к Сталіну
Ад падруг маіх, ад сяброў.
Перадаць яму наказалі мне,
Каб заўсёды быў жыў-здароў.
От ён ветліва усміхаецца
Кветкам Ніначкі і вясне.
К галаве яе нахіляецца
Так, як снілася ёй у сне.

Грэе сонейка прамяністае.
І глядзіць цяпер цэлы свет
На сукеначку снежна-чыстую,
Гальштук новенькі і букет.
... От і ноч даўно.
Сінь над далямі.
Толькі позна так, хто не спіць?
Гэта Ніначка бачыць
Сталіна,
І з ласкавасцю ён глядзіць.

*Пераклад з яўрэйскай мовы*
ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Кастрычнік 1939 г. № 10



# СВЯТА НАРОДА

7 лістапада 1917 года рабочыя і сяляне нашай краіны звергл і ўладу памешчыкаў і капіталістаў і ўстанавілі народную ўладу—уладу Советаў. З гэтага дня было назаўсёды пакончана з прыгнечаным, галодным, бяспраўным жыццём працоўных. Пачалося новае жыццё, свабоднае і шчаслівае. Правадыры большэвіцкай партыі Ленін і Сталін вучылі рабочых і сялян змагацца з старым, ненавісным эксплаататарскім ладам і будаваць новае жыццё.

Вялікія заваёвы Кастрычніцкай рэволюцыі совецкі народ адстаяў у жорсткай барацьбе. Ён адстаяў іх у барацьбе з рознымі белагвардзейскімі і інтэрвенцкімі бандамі ў часе грамадзянскай вайны, у непрымірымай барацьбе з рознага роду агентамі капітала—трацкістамі, бухарынцамі і іншымі ворагамі народа. Праз усю гісторыю сваёй барацьбы совецкі народ з чэсцю пранёс пабеданосны сцяг Кастрычніка.

Былая адсталая краіна—царская Расія—стала магутнай перадавой краінай. Пабудаваныя за дзве сталінскія пяцігодкі фабрыкі і заводы вырабляюць усе неабходныя станкі і машыны. Нашы калгасы поўнасцю забяспечваюць краіну хлебам і іншымі прадуктамі. Высокага развіцця дасягнулі ў нас навука і мастацтва.

У гэтым годзе працоўныя Совецкага Саюза сустракаюць свабодна Кастрычніцкае свята разам з народамі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Ніколі не забудзецца дзень 17 верасня 1939 г. У гэты дзень доблесная Чырвоная Армія па загаду совецкага ўрада перайшла граніцу і аслабаніла працоўных Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ад гнёту польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Ажыццявілася даўняя мара працоўных Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Вялікі совецкі народ прыняў іх у сваю брацкую сям'ю. 13 мільёнаў заходніх украінцаў, беларусаў, яўрэяў сталі шчаслівымі совецкімі грамадзянамі. Свабодны народ нашай радзімы вырас да 183 мільёнаў чалавек.

Сагрэтыя мацярынскай любоўю і клопатамі партыі, урада і таварыша Сталіна шчасліва жывуць дзеці нашай радзімы. Кожны год для іх адкрываюцца новыя сталінскія школы, паркі, палацы, сады. Краіна аддае ўсё лепшае, каб выхоўваць з іх палкіх патрыётаў, культурных, адукаваных людзей. Усенароднае свята нашы дзеці адзначаюць лепшай вучобай, крэпкай дружбай.

У дзень вялікага рэволюцыйнага свята ўрачыста і радасна выходзіць на вуліцы совецкі народ. Над стройнымі калонамі гучаць звонкія песні. У іх народ выражае сваю палкую любоў, сваю адданасць любімай радзіме, партыі і вялікаму правадыру народаў таварышу Сталіну.

# ШКОЛЬНЫЯ ГОДЫ
# ІОСІФА ВІСАРЫЁНАВІЧА
# СТАЛІНА

В. СМІРНОВА

*(Па ўспамінах яго школьных таварышоў)*

Сорак восем год таму назад у Горыйскае чатырохкласнае духоўнае вучылішча хадзіў невысокі хлопчык з сумкай цераз плячо.



Гэта быў сын горыйскага шаўца і прачкі. Пры мізэрным заработку сям'і клапатлівая маці з усіх сіл старалася, каб яе адзіны сын быў не горшым за другіх рэбят. Хлопчык заўсёды быў адзеты акуратна і чыста. На ім было сіняе пальто і высокія боты. З-пад войлачнага капелюша весела глядзелі яго жывыя цёмныя вочы, на руках былі шэрыя вязаныя рукавіцы, а на шыі намátаны шырокі чырвоны шалік. Па гэтым шаліку яго здалёк пазнавалі таварышы.

— Вунь ідзе наш Сосо!—крычалі яны і беглі яму насустрач, бо яго вельмі любілі ў школе: ён быў такі вясёлы, жвавы, дужы, спрытна гуляў у лапту і так добра ўмеў падбіраць удзельнікаў, што яго партыя заўсёды перамагала ў гульні.

Але ён быў не толькі важаком у гульнях на пераменках і ў часы адпачынку,—ён і на ўроках заўсёды быў адным з першых.

Калі настаўнік у класе пытаўся: „Хто ведае?“ і ніхто з вучняў не мог адказаць на якое-небудзь цяжкае пытанне, усе глядзелі на Сосо Джугашвілі. Ужо ён-то напэўна мог адказаць: ён-жа ведаў гэтулькі розных цікавых рэчаў, пра якія ніколі не апавядаў настаўнік.

У сумцы з чырвонага паркалю разам з падручнікамі заўсёды ляжала якая-небудзь кніжка: увесь вольны час і нават іншы раз на нудным уроку Сосо чытаў. Колькі ён перачытаў кніг! У школьнай бібліятэцы вельмі хутка ўжо не было для яго цікавых кніг, і ён стаў браць іх у Арсена Каландадзе—у кніжным магазіне.

Ён добра памятаў усё, што прачытаў, і заўсёды мог расказаць шмат цікавага.

Нават дарослыя людзі заслухоўваліся яго апавяданнямі, і часта паважаныя горыйскія дзяды прасілі хлопчыка расказаць ім што-небудзь.

— Дзякуй, Сосо!—казаў яму дзядзька яго таварыша Тітвінадзе,—заходзь да нас часцей.

Але не да ўсіх таварышоў Сосо Джугашвілі заходзіў ахвотна,—ён не любіў бываць у багатых дамах.

Яго школьны таварыш Гагохія жыў у доме свайго дзядзькі, а ў двары гэтага дома, у маленькай каморцы каля кухні, жыў шавец Вісарыён Джугашвілі з жонкай і сынам. Няважным было іх жыллё: уваход проста з двара—ніводнай ступенькі, падлога цагляная, маленькае акенца давала мала святла. Пакойчык быў маленькі. Гагохія па некалькі разоў на дзень збягаў уніз, у гэты цесны пакойчык, але вельмі рэдка яму ўдавалася зацягнуць Сосо Джугашвілі да сябе наверх, у сваю вялікую кватэру.

У маленькім Горы было мала школ, і паняволі дзеці горыйскіх багачоў вучыліся разам з дзецьмі беднаты, і ў кожным класе былі дзве групы... Сосо Джугашвілі заўсёды быў з „дзецьмі жабракоў і няшчасных“—так пагардліва называў іх настаўнік Ілурыдзе.

Але ўсё-такі настаўнікам прыходзілася прызнаць яго першым вучнем. У Сосо Джугашвілі была выдатная памяць, і ён ведаў куды больш, чым другія рэбяты.

Іншы раз настаўнікі прыдзіраліся да яго: чаго добрага, гэты малыш можа падумаць, што ён ведае больш за сваіх настаўнікаў! І вось яго выклікалі часцей, чым патрэбна было, да дошкі, пыталіся па ўсяму курсу, давалі хітрыя пытанні.

Але Сосо Джугашвілі не баяўся гэтых неспадзяваных пытанняў. Ён адказваў спакойна; калі ўжо ён гаварыў што-небудзь, дык быў зусім упэўнены, што гэта так і ёсць,—іначай ён-бы не стаў гаварыць.

Аднойчы настаўнік Ілурыдзе, той самы, што смяяўся з дзяцей беднякоў, запытаў яго:

— Колькі вёрст ад Пецербурга да Пецергофа?

Сосо адказаў.

Але, відаць, настаўнік сам няцвёрда ведаў тое, аб чым пытаўся, або хацеў збіць спанталыку хлопчыка.

— Ты так думаеш?—едка перапытаў настаўнік.

— Я гэта ведаю,—адказаў Сосо.

— Ты памыляешся,—сказаў настаўнік.

— Не, гэта вы памыляецеся,—пярэчыў хлопчык.



— Як ты асмельваешся спрачацца са мною?—узлаваўся настаўнік.

— Я ведаю, што я кажу праўду,—стаяў на сваім Сосо.

Настаўнік стаў крычаць і сварыцца.

Але хлопчык не здаваўся. Ён стаяў, навыцяжку, за партай і смела глядзеў на настаўніка: вочы яго пашырыліся і блішчалі...

— Я кажу праўду,—паўтарыў ён.

Іосіф Джугашвілі ведаў больш за другіх, ён быў першым вучнем у класе, але ніколі ён не хваліўся і не паказваў перад рэбятамі сваіх пераваг. Ён быў добрым таварышам і заўсёды дапамагаў больш слабым. Ён дапамагаў ім рашаць задачы, рысаваў з імі геаграфічныя карты. Іосіф быў добры рысавальшчык, хоць у школе тады не вучылі рысаваць.

Аднаго разу да іх у клас паступіў адзін хлопчык, родам з Мінгрэліі. Ён дрэнна гаварыў па-грузінску, і вучні сталі смяяцца з яго вымаўлення. А Сосо Джугашвілі неяк падышоў да яго і сказаў проста:

— Я хачу навучыцца гаварыць па-мінгрэльску. Давай я буду ў цябе вучыцца мінгрэльскай мове, а ты будзеш вучыцца ў мяне грузінскай?

Сосо было тады толькі адзінаццаць год.

А гадоў у трынаццаць Іосіф Джугашвілі памагаў ужо таварышам па школе разбірацца ў сур'ёзных пытаннях.

Аднойчы ў час летніх канікул ён пайшоў на прагулку са сваім таварышам Глурджыдзе. Вакол іх горда высіліся горы, на сінім небе ззяла яркае летняе сонца. Гледзячы на ўсё гэта, Глурджыдзе загаварыў пра бога. Іосіф слухаў, маўчаў, потым сказаў паціху:

— Ведаеш, нас падманваюць, бога няма...

Таварыш здзівіўся: ніколі ні ад каго ён не чуў такіх слоў.

— Сосо, што ты кажаш?!

— Я дам табе прачытаць кнігу, з якой ты даведаешся, што свет і ўсё жыццё пабудованы зусім па-іншаму; што апавядаюць пра бога,—хлусня,—сказаў Іосіф.

— Якая гэта кніга?—запытаў Глурджыдзе.

— Дарвін. Абавязкова прачытай,—сказаў Іосіф.

У 1894 годзе—пятнаццаці год—Іосіф Джугашвілі скончыў горыйскую школу. Ён асабліва выдатна здаў выпускныя экзамены. У атэстаце ў яго стаялі круглыя пяцёркі. Ён нават атрымаў пахвальны ліст—падзея, нечуваная ў той школе! Пахвальныя лісты ў духоўным вучылішчы даваліся толькі дзецям папоў, а яго бацька быў просты шавец.

*
* *

Мінулі годы.

Маленькі грузінскі хлопчык вырас і стаў вялікім правадыром велізарнай магутнай краіны, правадыром комуністаў усяго свету, правадыром працоўных усіх земляў і народаў!

Няма ніводнага кутка ў свеце, дзе-б з захапленнем, з надзеяй і падзякай голасна або шэптам не паўтаралася яго імя: СТАЛІН.

(„Чтение в начальной школе", вып. II).




# Гур'еўская каша

В. КВАСНІЦКІ

Рысункі М. СВЯЦКАГА

Было гэта ўвосень дзевятнаццатага года. Запісаўся я ў партызанскі атрад таварыша Грышына, і назначылі мяне ў тым атрадзе кашаварам.

— Ды я,—кажу,—зроду баршча-капусты не варыў.

— А я,—адказвае камандзір,—зроду палкамі не камандаваў. Нічога, навучышся!

І падае мне тоўстую-тоўстую кнігу:

— Вазьмі вось, можа, спатрэбіцца.

Раскрыў я, чытаю:

„Падарунак маладым гаспадыням. Твор Елены Малахавец. Дазволена цэнзурай у горадзе Санкт-Пецербурзе".

Ну, што ты будзеш рабіць! Так і прышлося мне быць кашаварам.

Але баршча-капусты мне доўга варыць не прышлося. На другі-ж дзень мы выступілі і цэлы месяц не вылазілі з баёў. Такая заварылася каша, што пра гарачую страву і думаць забылі.

Але вось аднойчы адбіла наша разведка ў белых абоз і захваціла два кулі манных круп, пуд цукру, мяшок ізюму і цэлую скрыню розных далікатных прысмакаў. Што з гэтых прадуктаў варыць? Раскрыў я свой „Падарунак маладым гаспадыням", гляджу — ёсць падыходзячае блюда: „№ 1331—каша гур'еўская". Апрануў я халат, калпак і толькі паспеў усыпаць у кацёл крупы, цукар і ўсё іншае, як раптам—трывога!

Кінуўся я запрагаць у павозку свайго Барона. А характар у гэтага мерынка, трэба сказаць, быў самы шкодны: то проста пад кулі ірвецца, а то задрыжыць—і ні з месца. Хочаш яго бі, хочаш на каленях прасі— карысць адна. Такі ўжо шкодны!

Увесь дзень цягнуўся бой, а ўвечары, калі сцямнела, адстаў я разам са сваёй кухняй ад атрада і заблудзіўся. Доўга калясілі мы з Баронам па лесе, пакуль не дабраліся да нейкай вёскі. Каша ў мяне ўжо падгараць пачала, трэба вады ў кацёл падліць. Заязджаю ў першы, які трапіўся, двор, гляджу, а ва дварэ... як вы думаеце, хто? Белыя! Выскаквае мне насустрач тоўстамордый фельдфебель з нагайкай і крычыць:

— Куды прэш з кухняй! Тут штаб дывізіі. Назад!

У гэты самы час раздаецца каманда: „Смі-і-ірна" і выходзіць з памяшкання пажылы генерал. Падыходзіць да мяне і і ласкава так пытаецца:

— Якога палка, брацец?

А я, нядоўга думаючы, і бракнуў:

— Гур'еўскага, ваша правасхадзіцельства!

— А, — кажа генерал, — Гур'еўскага грэнадзерскага пятнаццатай дывізіі?

Ну, скажы, калі ласка! Аказваецца, у белых такі полк сапраўды ёсць!

— Ты што-ж, брацец,—пытаецца зноў генерал,—вячэру вязеш?

— Так точна! Вячэру, ваша правасхадзіцельства.

— Што ў катле?

— Каша,—дакладаю,—гур'еўская.

— Гур'еўская?—здзіўляецца генерал.— Не можа быць!

— Так точна! Гур'еўская—манная з ізюмам, з міндалем, нумар тысяча трыста трыццаць першы.

— Падаць пробу!

Адкрыў я кацёл, адтуль пар, пах, салодкі дух. Генерал з'еў адну лыжку, другую.

— Так,—гаворыць,—сапраўды, гур'еўская! Такую кашу я толькі ў Маскве ў Марцьяныча еў. Ах, Масква, Масква! Малайчына, кашавар!

„Эй,—думаю,—усёроўна мне зараз прападаць".

Намацаў пад халатам гранату-лімонку, зняў кальцо.

— Не лезь!—крычу фельдфебелю.— Адыйдзі, кабан тоўстапузы!

— Як ты смееш! Я падпрапаршчык!

— А мне,—кажу,—начхаць! Я сам георгіеўскі кавалер.

Тут выходзіць зноў з памяшкання ласкавы генерал і вымае наган.

— Дык якога ты, мярзавец, палка? Гур'еўскага? Узяць яго!

— На, бяры!

Граната як ахне! Барон як прыкладзе вушы ды як ірване ў вароты! Сам цяпер не



— Рад старацца, ваша высокаправасхадзіцельства!

Тут генерал дастае медаль, сам вешае мне на фартух і звяртаецца да сваёй світы:

— Вось выдатны прыклад клопатаў аб ніжніх чынах. Гур'еўская каша! Га! Неадкладна паклічце да апарата камандзіра Гур'еўскага палка князя Беласельскага. Жадаю яму асабіста выразіць падзяку.

„Вось гэта,—думаю я,—дарэмна! Хопіць з мяне і медалі. Як-бы адгэтуль хутчэй выбрацца?"

Ды куды там! Толькі генерал пайшоў, як пісары ды розныя дзяншчыкі-ардынарцы абляпілі мяне, як мухі.

— Давай пробу!

А тоўстаморды фельдфебель цэлае вядро прыцягнуў:

— Накладай больш ізюму!

памятаю, як я апынуўся за ваколіцай. А над вёскай ужо ірвуцца снарады.

„Нашы! Наша артылерыя працуе!"

Нясе мяне Барон па купінах, па балоце, і раптам:

— Стой!

Выскакваюць з кустоў чацвёра са штыкамі і проста на мяне. Гляджу—на шапках чырвоныя зорачкі. Свае!

— Таварышы!—крычу.—Я свой, таварышы!

— Шэры воўк табе таварыш! А ну, злазь з возу!

Прывялі мяне да камандзіра, пачалі дапытваць.

— Свой,—кажу я.—Кашавар Грышынскага атрада, вячэру вязу. Колькі мы вас, таварышы, чакалі, колькі галадалі!

— Што ў цябе ў катле?

— Каша гур'еўская.



— Якая такая?

— Манная,—дакладваю,—з ізюмам, з міндалем, нумар тысяча трыста трыццаць першы.

— З міндалем, значыць, галадалі? Салодкія кашкі елі? Кажы, якой часці?

— Грышынскага атрада.

— Гэта што-ж, георгія табе ў атрадзе далі?

Хапіўся я—і сапраўды: вісіць у мяне на халаце генеральская медаль.

— За што георгія атрымаў, халуй афіцэрскі?

— За кашу. Толькі я свайму атраду варыў. Праўду я кажу. Свой я! Грышынскага атрада.

— А медаль хто даў?

— Генерал,

— За што?

— За кашу.

— За якую кашу?

— За Гур'еўскую, з ізюмам...

Тут я замаўчаў. Чым больш гаворыш, тым горш атрымліваецца. Аднак, дагаварваць і не давялося, таму што ў гэты самы час атрад атрымаў загад ісці ў наступленне на тую самую вёску, дзе я генерала кашай частаваў.

Застаўся са сваёй павозкай адзін. Наламаў галля, напаліў кухню, памяшаў у катле. І раптам тут паблізу разарваўся снарад!

Мой Барон як прыкладзе вушы, як ірване кар'ерам! І панёс мяне ў самы бой.

Кулі свішчуць, кулямёты трашчаць, снарады ірвуцца, кухня грыміць, дым з трубы валіць, а я ўсё кар'ерам ды кар'ерам.

Праскочыў я скрозь пярэднія нашы ланцугі, уварваўся ў вёску, праскакаў да самай царквы. Гляджу—проста бягуць на мяне са штыкамі. Белыя? Не, нашы! Грышынскі атрад. А сам таварыш Грышын наперадзе з наганам.

Я ў момант: „Тпру!" І з рапартам:

— Таварыш камандзір! Вёска занята нашымі, каша гатова.

— Што? Якая каша?

— Гур'еўская, з ізюмам, нумар тысяча трыццаць першы. Загадаеце раздаваць?



# Слава табе армія!

ЯНКА КУПАЛА

За лясы шумлівыя,
За лугі зялёныя
Слава табе, армія,
Армія Чырвоная!

З-пад няволі панскае
Беларусь Заходнюю
Вывела ты, армія,
На шляхі свабодныя.

Свята з намі святкуюць
З ласкаю жычліваю
Браты нашы з Захаду,
Вольныя, шчаслівыя.

З думкай пераможнаю,
Урачыста важная
У госці да нас сходзіцца
Грамада сярмяжная.

За лясы шумлівыя,
За лугі зялёныя
Слава табе, армія,
Армія Чырвоная!

# Дзякуй таварышу СТАЛІНУ за шчаслівае дзяцінства!






Крэмлёўскія звёзды
Над намі гарацьー
Далёка святло іх ідзе!
Радзіма цудоўная ёсць у рэбя[illegible]
Няма ў свеце лепшай
Нідзе!

Мы скачам, спяваем
У вольны свой час.
Нам радасна жыць
На зямлі
Таму, што, рэбята,
Пра кожнага з нас
Клапоціцца Сталін ў Крэмлі!

*(„ЧИЖ“)*







1. Малышы на зарадцы.
2. Раі Салаўёвай і Лёні Дворкіну мінула 8 год. Яны прыняты ў першы клас 47 Сталінскай школы ў Мінску.

3. Весела адпачывал[illegible]еры летам у лагеры.

4. У вольны ад заняткаў час рэбята слухаюць патэфон.
5. Вучань Мінскай музыкальнай школы Паўлік Салодчанка грае на віаланчэлі.

# Пісьмо Раеўскіх школьнікаў вучням 25 школы г. Мінска

Мы, вучні IV класа, напісалі Вам гэта пісьмо, каб найхутчэй пазнаёміцца з вамі. Увесь час мы вучыліся на польскай мове, таму пісаць па-беларуску не можам. Гэта пісьмо мы папрасілі напісаць нашага настаўніка Барыса Іванавіча Рамаяоўскага.

Перш за ўсё мы сардэчна дзякуем вашым бацькам і братам—гэта значыць Чырвонай Арміі—за вызваленне нас ад польскіх памешчыкаў, капіталістаў і паліцэйскіх, якія не давалі нам жыцця і спакою, збівалі нашых бацькоў і братоў, кідалі іх у турмы.

Нас вельмі радуе, што не будзем больш вывучаць гісторыю польскіх каралёў. Нам хочацца хутчэй авалодаць сваёй роднай беларускай мовай. Але бяда ў тым, што ў нас яшчэ няма падручнікаў па беларускай мове. Вось мы і просім Вас, дарагія таварышы, прыслаць нам падручнікі па беларускай і рускай мовах.

Мы чулі ад байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, што ў вас, у Совецкай Беларусі, многа аўтамашын. Мы запрашаем вас да сябе ў госці, раскажыце нам пра сваё радаснае жыццё.

Зараз просім вас напісаць пісьмо.

*Вучні Сцяпан Цыганкоў, Александр і Пётр Полаз, Геня Гагун* і другія— усяго 15 подпісаў.

Раеўская школа,
Заходняя Беларусь.

# Адказ вучням Раеўскай школы

Дарагія таварышы!

Толькі што мы атрымалі ваша пісьмо, якому вельмі ўзрадаваліся. Пісьмо чыталі ва ўсіх класах. Мы вельмі рады з Вамі пазнаёміцца і аказаць Вам таварыскую дапамогу. Разам з вамі мы радуемся вашаму вызваленню з-пад прыгнёту польскіх паноў і капіталістаў. Цяпер вы будзеце жыць таксама шчасліва, як жывём мы—дзеці Совецкай краіны. Для нас пабудаваны выдатныя палацы, кіно, тэатры, бібліятэкі, школы. Нам прадастаўлены ўсе ўмовы для таго, каб добра вучыцца і весела праводзіць вольны ад заняткаў час. Усё гэта мы маем дзякуючы бацькоўскім клопатам аб нас нашай вялікай комуністычнай партыі і яе правадыра Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

Вы просіце дапамагчы Вам падручнікамі. Хутка мы вышлем усе патрэбныя Вам кнігі. Дзякуем за Ваша запрашэнне прыехаць да Вас. Прыедзем пры першай магчымасці.

Наша соцыялістычная краіна рыхтуецца сустракаць вялікае свята—XXII гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Гэты дзень мы жадаем сустрэць разам з Вамі, дарагія таварышы. Прыязджайце да нас. Мы будзем Вам вельмі рады. Мы спадзяемся, што ў будучым наша сувязь яшчэ больш узмацніцца. Калі ў Вас будуць якія-небудзь цяжкасці—пішыце нам. Мы заўсёды будзем рады дапамагчы Вам.

Ад імені вучняў 25 школы г. Мінска:
*Вдэйка Рэм, Касцюковіч Рэма, Мазур Іна, Герловіч Вера*—усяго 11 подпісаў.

# БАЯВЫЯ ЭПІЗОДЫ

## ТРОЕ СУПРОЦЬ ШАСЦІДЗЕСЯЦІ

Наша падраздзяленне сувязі з часцямі другога эшалона размясцілася на начлег у лесе ў 30 кіломeтрах ад горада. Мой узвод быў прызначаны ў караул.

Ужо змрок спусціўся на зямлю, калі я ўстанавіў апошні пост.

Праз некаторы час я направіўся да адказнага паста. Мне здавалася, што там не ўсё ціха. Так і было.

Каля шасцідзесяці бандытаў, пераапранутыя ў штацкае, рушылі на пост. Ува ўсіх на рукавах былі чырвоныя павязкі, а ў пятліцах пінжакоў чырвоныя банты. Такім чынам бандыты спадзяваліся абмануць чырвонаармейцаў-часавых і нечакана напасці на лагер.

Гэтая спроба аказалася дарэмнай.

— Хто ідзе?—голасна запытаў я.

Рэзкі залп быў мне адказам. Наша група з трох чалавек перайшла к абароне. Пры дапамозе кулямёта, гранат і вінтовак мы стрымлівалі націск ворагаў да таго часу, пакуль не прыбыла на дапамогу разбуджанае выстраламі падраздзяленне. У гэты момант я падняўся, каб павесці ў атаку сваіх байцоў і быў ранены. Бандыт, страляўшы ў мяне, не пазбегнуў ад заслужанай кары.

Меткая куля чырвонаармейца-вартавога дагнала яго. Тое-ж самае здарылася і з другімі бандытамі.

Многія з іх былі забіты, астатнія ўзяты ў палон.

Я ранены, але гэта не засмучае мяне. Свядомасць таго, што мая кроў не прапала дарэмна, што наша маленькая група выратавала жыццё не аднаму дзесятку нашых таварышоў, напаўняе мяне гордасцю. Няхай ведаюць прэзрэнныя ворагі, што як-бы яны не маскіраваліся, да якіх-бы каварных метадаў яны не прыбягалі, ім не ўдасца абмануць воінаў Чырвонай Арміі.

*Лейтэнант Ф. Шылямаў*

## У БАРАЦЬБЕ ЗА ГРОДНА

Да флагманскай машыны, крадучыся, падбег 14-гадовы хлопчык. Аглядаючыся па баках, ён шэптам паведаміў камандзіру, што пад мост падкладзены снарады. Камандзір горача падзякаваў яму і, вышаўшы з машыны, стаў прабірацца к масту. Мост аказаўся мініраваным.

Ачысціць мост ад мін было даручана адважным байцам сапёрнай роты пад камандаваннем лейтэнанта тав. Хоўрына. Рота неадкладна прыступіла да выканання баявой задачы. Даручыўшы байцам ачысціць асобныя звенні, тав. Хоўрын сам накіраваўся да цэнтра маста. Чапляючыся за мацаванні адной рукой, ён стаў другой выцягваць міны з-пад чыгунных пліт. Раптам мост пачалі абстрэльваць з кулямёта. Кулі пападалі ў чыгун, але рота ўпэўнена працягвала выконваць даручаную справу. Праз 30 мінут тав. Хоўрын выкінуў апошнюю міну.

Танкі рушылі ў горад. За імі пайшла пяхота, але ярасны кулямётны агонь, які вёўся па масту з верхніх паверхаў будынкаў, не даваў ёй магчымасці прайсці.

Пачалася пераправа пяхотных часцей праз Нёман у лодках. Насустрач адчаліўшай першай лодцы з процілеглага берага накіраваўся невялікі човен. У ім знаходзіліся гродненскі рабочы Станіслаў са сваёй жонкай Ксеніяй. Яны ўказалі байцам на найбольш зручныя месцы для пераправы. Пад ураганным агнём перавозіліся ўсё новыя партыі байцоў.

... Ксенія сядзела ля руля. Мінуўшы вадаварот, лодка набліжалася да берага. У гэты час варожая куля паразіла рулявога. Байцы беражна падхапілі Ксенію і асцярожна паклалі на дно лодкі. Яна ціха прагаварыла:

— Дарагія таварышы, шкада, што не змагу разам з вамі адсвяткаваць радасны дзень. Ведайце, што ў горадзе вас з нецярпеннем чакаюць тысячы працоўных — беларусоў, якія жадаюць жыць па-новаму, свабодна.

Чырвоная Армія была горача сустрэта насельніцтвам. Працоўныя вышлі на вуліцы і віталі гераічных чырвоных воінаў, якія прынеслі ім доўгачаканае вызваленне.



# ІНШАКРАІНКА

Н. ВІРТА

I

У цёплы вераснёускі дзень трактарыст Антошка працаваў на ўчастку, які знаходзіўся зусім блізка ад граніцы.

Скончыўшы работу, Антошка злез з машыны, выцер рукавом чырвоны, успацелы лоб, паправіў бялявыя валасы, вынуў з кішэні папяросу, сеў на мяжу і закурыў.

Антошку надакучыла сядзець на мяжы. Ён кінуў папяросу, падышоў да трактара і мінут дзесяць вазіўся каля матора. Потым ускочыў на пляцоўку, перавёў рычаг, агледнуўся і ўбачыў каля плуга белагаловую дзяўчынку. Ён паглядзеў на яе шырока адкрытыя вочы, на руку, якая перабірала край дзіравай сукенкі, і ўсміхнуўся.

— Сцеражыся! — крыкнуў ён і рвануў рычаг.

Трактар рушыў.

Пад'ехаўшы да суседняга ўчастка, Антошка зноў убачыў дзяўчынку. Спатыкаючыся, яна бегла за трактарам.

Ззаду пачуўся конскі тупат. Па мяжы ехаў раз'езд пагранічнікаў. Пярэдні конны памахаў рукой, і трактарыст спыніў машыну. Пагранічнікі пад'ехалі і папрасілі прыкурыць. Старшы пагранічнік запытаў:

— Гэта што, дачка твая, ці што?

— Дзе там! — Антошка ўсміхнуўся. — Дзяўчынка нейчая. Трактарам цікавіцца.

— А-а! Ты адкуль?

— Адтуль, — прашаптала дзяўчынка.

— Адкуль — адтуль?

— Я карову пасвіла.

— Э-э, ды яна іншакраінка! — раптам дагадаўся трактарыст. — Я яе карову бачыў. Рыжая — на польскім баку стаіць. Так?

Дзяўчынка кіўнула галавой.

Пагранічнікі пераглянуліся.

— Вось дык гісторыя! — здзівіўся Антошка.

Дзяўчынка заплакала.

— Ты чаго равеш? — запытаў у яе трактарыст. — Не бойся. Гэта, брат, Чырвоная армія!

Дзяўчынка заплакала яшчэ больш.

— А можа быць, адвезці яе да ручая, няхай дамоў бяжыць? — прапанаваў Антошка.

— Ну і сказаў! — строга адказаў старшы пагранічнік. — Праз граніцу бегаць не можна. Прыдзецца яе весці на заставу. Там начальнік разбярэцца, хто яна і адкуль. Чуеш, дзяўчынка? А ну, паедзем з намі! Ды ты не бойся. Хочаш, яблычак дам?

Ён вынуў вялікі чырвоны яблык і, нахіліўшыся з сядла, падаў яго дзяўчынцы. Яна ўзяла яго, усміхнулася, даверліва пацягнулася да пагранічніка і апынулася ў сядле.

Каля заставы раз'езд сустрэў начальніка.

— Каго злавілі?

— Так што, таварыш начальнік, дзяўчынка з польскага боку прыбегла. Іншакраінка!

— Ты чаго сюды прыбегла? — начальнік паласкатаў дзяўчынку пад падбародкам. — Як цябе завуць?

— Ася! — ледзь чуваць сказала дзяўчынка.

— Ах ты, Ася, Ася! Бацьку твайго як завуць?

— Павел.

— Каза гэтакая! Бяда з вамі!

— Яна трактарам зацікавілася, — сказаў старшы пагранічнік. — Што з ёй рабіць, таварыш начальнік?

— Адвядзіце яе ў дзіцячы сад, а заўтра мы яе адправім назад.

Цямнела, калі старшы пагранічнік здаў Асю загадчыцы дзіцячага сада. Дзяўчынка спала.



Загадчыца беражна ўнесла дзіця ў чысты пакой, паклікала са двара няню. Тая хутка прынесла вады, і дзяўчынка толькі ў ванне прачнулася канчаткова. Яна з недаўменнем разглядала загадчыцу дзіцячага сада, яснавокую з круглым тварам і русымі касамі жанчыну, і старую зморшчаную няню. Асі мылі галаву, церлі мачалкай ногі. Яна пыхцела, моршчылася, але не плакала.

— Маткі ў цябе няма?

Ася кіўнула галавой.

— Бедная!—прашаптала няня.—Бач як зарасла!

Ледзь Асю паспелі завярнуць у прасціну, як яна зноў заснула. Яна не чула, як на яе надзявалі сарочку, як укладвалі ў пасцель.

— Анна Васільеўна,—шапнула няня,—сёння яна, як царэўна спіць, а заўтра зноў у бруд, у галечу.

Анна Васільеўна нахмурылася і нічога не адказала няні.

Раніцой, калі Ася прачнулася, яна ўбачыла каля свайго ложка хлопчыка, такога-ж белагаловага, як яна сама. Хлопчык, засунуўшы рукі ў кішэні штонікаў, пільна разглядаў Асю. Ззаду стаяла яшчэ шмат дзяцей. Усе яны ўважліва глядзелі на незнаёмку.

— Ты з-за ручая?—запытаў хлопчык.

— Я машыну прышла паглядзець.—І Ася пачала расказваць пра трактар, і пра сабаку, і пра бацьку, які „ўвесь дзень працуе на паласе".

Пасля абеда і мёртвай гадзіны хлопчык павёў Асю ў свой куток. У кутку вісеў партрэт Сталіна, нейкія рысункі, чырвоны флажок.

— Хто гэта?—запытала Ася, паказваючы на партрэт Сталіна.

— Не ведаеш?—здзівіўся хлопчык.

— Не-е...

— Эх, ты! Гэта Сталін!

Дзяўчынка, часта міргаючы, глядзела на партрэт.

— Ён для нас гэты дом пабудаваў, цацкі дорыць! Ён у самой Маскве жыве. Ён самы галоўны—вось ён які!

Размова была прарвана прыходам трактарыста.

— Ну, як у вас іншакраінка жыве?—запытаў Антошка.

— Нішто, прывыкла.

— А я ёй аўтамабіль зрабіў.

І Антошка паказаў вялікі драўляны грузавік.

Дзеці абкружылі Антошку, прасілі пакатаць іх на трактары, зрабіць і ім такі-ж аўтамабіль, які ён зрабіў Асі.

— Ну, іншакраінка, калі дамоў пойдзеш?—запытаў Антошка Асю.

Ася нічога не паспела адказаць. У пакой увайшла Анна Васільеўна і з ёй начальнік пагранічнай заставы. Ён прыехаў па Асю.

* * *

Калі Асі сказалі, што трэба ісці дамоў, яна заплакала. Белавалосы хлопчык загарадзіў яе ад начальніка.

— А я яе не пушчу,—сярдзіта надзьмуўшыся, сказаў ён.

Начальнік засмяяўся і падняў хлопчыка на рукі. Асі падарылі тую самую ляльку, якую яна не выпускала з рук увесь дзень. Лялька была чырвонатварая і тоўстая. У грузавічок няня палажыла вымытую, папраўленую Асіну сукенку і яшчэ адну—навенькую. Падумаўшы, яна палажыла ў аўтамабіль панчошкі і шаўковы зялёны аскуток.

Белавалосы хлопчык крануў начальніка заставы за гімнасцёрку.

— Шкада!—сказаў ён.

— Вельмі?

— Вельмі. Можна, я ёй чырвоны флажок падару?

— Нельга.

— Чаму?

— У іх краіне за чырвоны флаг садзяць у турму.

— Усіх?

— Усіх.

Хлопчык уздыхнуў, падаў Асі руку і доўга з ёй развітваўся. Потым вынуў з кішэні нейкі камячок і аддаў ёй.

Праз гадзіну начальнік заставы і Ася падышлі да маста. На тым баку ручая, на ўзгорку, стаяў учарашні селянін—бацька Асі.

— Ну, да пабачэння іншакраінка,—сказаў начальнік пагранічнай заставы.

— Мне можна будзе да вас прыйсці заўтра?—запыталася Ася.—З бацькам і каровай?

— Нельга, — сказаў начальнік.

— Чаму?

Начальнік нічога не адказаў, пацалаваў Асю і падвёў яе да сярэдзіны маста.

Бацька Асі зышоў з узгорка, моўчкі ўзяў сваю дачку за руку і павёў дамоў. Дзяўчынка часта аглядалася назад, плечы яе ўздрыгвалі: яна плакала.

II

Ася паранейшаму пасвіла сваю карову, бацька ішоў раніцой на работу, вяртаўся ўначы, а жылося ўсё горш і горш; усё часцей прыходзілася пазычаць у багатых суседзяў хлеб, соль, пшано.

Зімой было зусім дрэнна. Саломы ледзь хапала карове на яду. Старую, дзіравую хату ацяпляць не было чым. Праўда, кругом рос лес, але ён належаў багатаму пану. Лес ахоўвалі вартаўнікі, і хадзіць у яго было нельга.

У школу Ася не хадзіла. У яе былі дрэнныя, старыя валёнкі, а да школы трэба было ісці вельмі далёка. Ды і вучыліся ў той школе не на беларускай мове, на якой размаўлялі Ася і яе бацька, а на чужой, на польскай, якой Ася не разумела.

Потым бацька прадаў карову, бо багатыя суседзі патрабавалі, каб ён заплаціў ім даўгі.

Часта прыходзіла Ася да ручая і глядзела ў той бок, дзе яна нядаўна была. І ўспамінала дзень, праведзены ёю ў дзіцячым садзе. Ёй хацелася пабегчы туды зноў, але польскія салдаты паставілі ўдоўж ручая дратовую загародку.

... Так прайшло некалькі год.

І раптам усё перамянілася ў жыцці Асі, і яе бацькі, і ўсіх, хто жыў разам з імі.

Аднаго разу Ася ўстала вельмі рана і пабегла на двор па салому: яна сама паліла печ і варыла зацірку ці кашу, калі было з чаго варыць.

Было яшчэ цёмна. Ася корчылася ад асенняга холаду—ішоў верасень месяц.

На тым баку, за ручаём, пачуліся выстралы, потым у неба паляцела чырвоная ракета, там яна рассыпалася і згасла. Потым такія-ж чырвоныя ракеты падняліся к небу ў некалькіх месцах. Асі зрабілася страшна. Схапіўшы ахапак саломы, яна пабегла ў хату.

— Бацька,—сказала яна,—за ручаём страляюць!

Бацька прыслухаўся: выстралы не спыняліся.

— Большэвікі каго-небудзь злавілі на граніцы,—сказаў ён,—вось і страляюць.

Раптам з-за ручая выскачыла вялікая жалезная машына, пафарбаваная ў зялёны колер, з чырвонай зоркай на баку.

Машына была нязграбная, цяжкая, але яна лёгка перайшла ручэй, змяла дротавую загароду, узабралася на ўзгорак і спынілася. Наверсе адкрылася крышка, і адтуль вылез чалавек у скуранай куртцы і скураным шлеме. Ася адразу пазнала трактарыста Антошку, хоць ён і быў адзет па-другому. Ася выскачыла з хаты. Антошка таксама пазнаў Асю.

— Э-э!—сказаў ён.—Ды гэта-ж ты, іншакраінка?

— Я!—адказала Ася, разглядаючы дзіўную машыну.

— Э-э! Ды ты вырасла. Ну, як жывеш?

— Карову прадалі.

— Гэта чаму-ж?

— Не ведаю. Мне яе шкада.

— Ну, нічога,—сказаў Антошка,—завядзеш новую.

— А ты чаго да нас?—запытала Ася.—Хіба можна пераязджаць праз ручэй?

— Цяпер можна.

— А хто табе дазволіў?

— Сталін. Памятаеш, табе пра яго нашы рэбяты расказвалі?

— Ага!

— Ну дык вось, таварыш іншакраінка. Сталін нам сказаў, каб усе вы былі зноў нашымі, каб ніякай граніцы не было, каб

можна было праз ручэй хадзіць, і каровы ганяць.

— Ты мяне абманваеш,—сказала Ася.

— Ну, але, абманваю!—засмяяўся Антошка.—Вось прагонім вашых паноў—і будзь здарова.

— Пан учора паехаў,—сказала Ася.— Спужаўся нечага і паехаў.

— Якраз у пару. І не ён адзін! Усе паны збеглі! Ну, вось што, іншакраінка: пакажы мне дарогу на станцыю.

Ася расказала Антошку, як трэба праехаць на станцыю. Антошка памахаў ёй рукой і залез у машыну. Машына пайшла. Ішла яна з грукатам і звонам—гэта быў танк. Ася пастаяла, пастаяла і пабегла ў сяло. А ў сяле на плошчы было ўжо шумна, весела. Там сабраўся ўвесь народ, тут-жа быў і бацька. Ён абнімаў чалавека ў шынелі і з чырвонай зоркай на фуражцы. Гэтых людзей было многа. Усе яны былі вельмі вясёлыя, смяяліся, размаўлялі і распытвалі суседзяў Асі.

„Гэта совецкія салдаты“, падумала Ася. Яна хацела запытаць бацьку, чаго яны прышлі, але тут яна ўбачыла старую няньку з дзіцячага сада. Нянька таксама прыехала з-за ручая разам з людзьмі ў шынелях і з чырвонымі зоркамі на фуражках. Яна абняла Асю, заплакала і стала яе цалаваць. І Ася вельмі ўзрадавалася і таксама пачала плакаць, але потым няня дала ёй яблык і сказала, што яна прыехала наладжваць такі-ж дзіцячы сад, як там, за ручаём. Яна папрасіла бацьку Асі, каб ён адпусціў сваю дачку з ёй—дапамагаць.

У той-жа дзень у доме багатага суседа, які раніцою кудысьці паехаў з усёй сям'ёй, няня наладжвала дзіцячы сад для сельскіх дзетак. Ася і яшчэ дзве дзяўчынкі ёй дапамагалі. Яны зрабілі ўсё амаль так, як гэта было ў дзіцячым садзе за ручаём.

Ася вельмі стамілася, але яна хацела распытаць няню аб тым, чаго яна ніяк не магла зразумець: чаму совецкія салдаты і няня прышлі ў іх сяло?

Калі Ася клалася спаць, а няня прысела на мінутку адпачыць, Ася запытала ў яе:

— Няня, як-жа гэта вы да нас прышлі праз ручэй? Праз яго-ж хадзіць не можна. Гэта-ж граніца нейкая.

— А бачыш ты, Асенька, зямля, на якой ты жывеш, і бацька твой жыве, і людзі ў сёлах і гарадах, раней была совецкай зямлёй, і ручэй, дачушка, гэтыя дзве зямлі не раздзяляў, а можна было хадзіць праз яго, колькі тваёй душы ўгодна. Але потым здарылася вайна, і зямлю гэту захапілі польскія паны. І на ёй усім беднякам стала жыць вельмі дрэнна, а багатым людзям стала жыць вельмі добра. Вось і ты, Ася, вельмі дрэнна жыла, а багаты сусед жыў добра.

— І дзядзька Апанас дрэнна жыве,—сказала Ася.—А дзядзька Фёдар жыве яшчэ горш, у яго нават хату прадалі, а грошы аддалі пану.

— Ну, вось мы і перайшлі ручэй, каб прагнаць паноў і багацеяў і каб у вас усё было: і ў цябе, і ў дзядзькі Фёдара, і ў дзядзькі Апанаса... І ў школу ты цяпер будзеш хадзіць, і вучыць у ёй будуць на беларускай мове, а не на чужой.

— У мяне няма бацінак,—сказала Ася.— Бацька працуе, а грошай усёроўна няма.

— Цяпер будуць. Бацьку твайму дадуць зямлі.

— Адкуль дадуць?

— А вось з той, якая была панскай. Возьмуць зямлю ў паноў і аддадуць усю бедным. Толькі працуй!

Ася памаўчала, потым запытала няню:

— І мы ўсе будзем жыць добра, як там у вас, за ручаём?

— Так.

— І гэта назаўсёды?

— Назаўсёды.

— І мне можна будзе хадзіць за ручэй, да тых рэбят?

— Можна.

— Значыць, тыя рэбяты цяпер таксама нашы?

— Нашы. Вы нашы, а мы вашы.

Ужо зусім засынаючы, Ася сказала:

— Гэта вельмі добра, што Сталін загадаў вам ісці за ручэй, а то тут вельмі дрэнна, а ў вас добра. Цяпер нам разам лепш будзе.

— Спі, спі,—сказала няня.—Спі, іншакраінка.

— Я цяпер не іншакраінка,—сказала Ася і заснула.

Раніцой Ася пабегла к ручаю. Дратовая загарода была знята. На масту ўжо не стаяў польскі салдат.

За ручаём ляжала свая, совецкая зямля.



# МАШЫНІСТ

ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

Рысункі М. СВЯЦКАГА

У маёй падругі Розы
Папа водзіць паравозы.
Ён заўсёды ў пуць гатоў,
А завуць яго—Петроў.

Быў у цёплых ён краях,
У вялікіх гарадах.
Нават з дальніх вуліц дзеці
Добра знаюць дзядзю Пецю.



Як прыходзіць ён дахаты—
Невысокі і мурзаты,—
Мы хутчэй бяжым тады,
Мы нясем яму вады.

І смяецца мілы госць:
— Ёсць вада і мыла ёсць!
Міг,—і дзядзя Пеця чысты,
Не пазнаеш машыніста.

Просім дзядзю мы паціху:
— Раскажы што-небудзь крыху.
Нас бярэ на рукі ён,
Забываем і пра сон.

Хутка, хутка мы ляцім
Па чыгунцы прама ў Крым.
А пасля туды мы едзем,
Дзе паўночныя мядзведзі.

Дзе і летам, дзе і ўвосень,
Кажухі даўгія носяць.
Міма хат, палёў, бяроз
Нас праносіць паравоз.

Да высокіх едзем гор,
Міма рэчак і азёр.
— Мо' стаміліся, рэбяты,
Мо' пара ісці дахаты?

Дзядзя Пеця любімы самы
Кажа:

— Вас шукаюць мамы.
Зоркі ўсходзяць. Позні час,—
Заўтра я закончу сказ.



Нас праводзіць да двара.
Мама кліча:
Спаць пара!

А пасля і ў сне
па свеце
Еду так,
як дзядзя Пеця.




## Рэбус-жарт

Якое слова вымаўляе хлопчык?



## Загадачны рысунак

Куды схаваўся зайчык? Адшукай яго.

## Загадкі

Што было „заўтра“ і будзе „ўчора“?

У якога караля
Драўляныя палі,
Драўлянае войска,
Скакуны без седака,
І без хобата сланы,—
Усё гатова для вайны.







## Раздзялі ўчастак

На ўчастку зямлі растуць дваццаць чатыры дрэвы. Трэба гэты ўчастак раздзяліць пяццю лініямі так, каб на кожным маленькім участку раслі тры дрэвы.



## Рэбята!

З размочанай фасолі і гароху можна зрабіць розных звяроў і птушак. Вось, напрыклад, двое куранят: фасоліна—тулава; гарошына—галава; шыя, ногі і дзюба—з дроту; а падстаўка—кружочак з пробкі.

Рэдактар А. БЯРОЗКІН   Афармленне М. СВЯЦКАГА   Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Мінск.   20.000 экз.   Зак. № 1061. $2^1/_2$ друк. арк.   Уп. Галоўліта № 655.

